# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 12 (47) 15-га верасьня 1930 году № 12 (47)




## ЗЬМЕСТ



## Аб паходзе саюзу на правядзеньне хлебанарыхтовак асеньняй пасеўнай кампаніі, сіласаваньня і мабілізацыі сродак насельніцтва.

Важнейшымі палітычна-гаспадарчымі задачамі на вёсцы ў сучасны момант зьяўляюцца: тэрміновае скончэньне ўборачнай кампаніі і поўнае і своечасовае выкананьне пляну хлебанарыхтовак і асеньняй сяўбы, прычым гэтыя ўдарныя задачы павінны быць арганічна ўвязаны з далейшай работай па калектывізацыі, па ўцягненьні ў калгасы шырокіх мас батрацтва і бедняцка-серадняцкіх гаспадарак вёскі.

Ад пасьпяховасьці правядзеньня гэтых задач і кампаній залежыць далейшае разгортваньне сацыялістычнага будаўніцтва і выкананьне 5-ці гадовага пляну ў 4 гады.

Саюз СГЛР, які аб'ядняе шматтысячныя масы пралетараў сельскае гаспадаркі, да гэтага часу зрабіў зусім мала каб з усей адданасьцю справе сацыялістычнага будаўніцтва, бальшавіцкімі ўдарнымі тэмпамі мабілізаваць усе сілы і энэргію на выкананьне і перавыкананьне задач пастаўленых перад імі і Камуністычнай партыяй.

Астаўшыйся кароткі час павінен быць цалкам скарыстан для пагалоўнай мабілізацыі мас нашага саюзу і сяброў іншых саюзаў, маючых свае ячэйкі на вёсцы,—для паходу саюзу на выкананьне і перавыкананьне задач, стаячых перад дзяржаваю у сучасны момант.

У дадатак да дырэктыў саюзу: аб асеньняй сяўбовай кампаніі (пастанова V-га пленуму БРК) аб уборачной кампаніі і ўдзелу нашага саюзу ў хлебанарыхтоўках па лініі нашага саюзу неабходна ў сучасны момант тэрмінова правесьці наступныя практычныя мерапрыемствы:

1) У абвестку дня ўсіх раённых канфэрэнцый нашага саюзу абавязкова

в) Колькі мабілізавана рабочых саўгасаў, лясьніцтваў і другіх у парадку добраахвотнасьці для непасрэднага ўдзелу ў сіласаваньні.

г) Колькі праведзяна суботнікаў па выкапцы ям, траншэй, колькі працавала па гэтых суботніках рабочых, вынікі працы ў лічбах.

д) Удзел мясцовых арганізацый у гэтай рабоце: Райкалгассаюз, РВК, сельсавет і інш.

*4. Брыгада па мабілізацыі фінансавых сродкаў.*

а) Колькі праведзена, дзе і якіх сходаў, вынікі гэтай работы.

б) Колькі і на якую суму распаўсюджана пазыкі „5-ці годка ў 4 гады“ паасобку сярод рабочых і сялянства.

в) Колькі завербавана ўкладчыкаў у касы ашчаднасьці і на якую суму.

г) Якая работа прароблена брыгадай па аказаньні садзейнічаньня сельсаветам у датэрміновай здачы с/г падатку сялянамі (лічбы).

д) Што прадпрынята брыгадай па разгортваньні работы збору ўцільсыравіны (лічбы).

УВАГА: Кожная брыгада павінна паказаць колькасьць рабочых, калгасьнікаў і г. д., уцятнутых у работу брыгад і інфармаваць БРК і газэту „Сельгасрабочы Бел.“ аб практыцы сваей работы.

10. Кожная брыгада абавязана, не радзей як раз у месяц, адчытвацца аб сваей рабоце на агульных сходах рабочых, альбо батрацтва.

Неабходна, каб брыгады для абмена вопытам у працы ставілі інфармацыі аб сваей працы на агульных сходах у суседніх саўгасах, сельрабачкомах ці рабачкомах лесавучасткаў.

11. Для дапамогі ў практычным разгортваньні работы паходу саюзу камандыраваць на месцы ад БРК саюзу т. т. ЖЫВІЦКАГА, МАЦЮШКУ, БУШКО САКОВІЧА, ТРЭБУШЭЎСКАГА, ДУНАЕЎСКАГА, СТАСЕВІЧА, МАСЛАВУ, МАРОЗАВА, і АЎЧЫНЬНІКАВА.

Прапанаваць Бельсельтрэсту, Калгасцэнтру, Паляводсаюзу, Сьвінаводу-Насентрэсту, Льнопенькааб'яднаньню ка мандыраваць на месцы ўсіх сваіх работнікаў, пакінуўшы ў Менску мінімальна неабходны штат для бягучай працы ўстаноў:

Разьмяркаваньне камандыраваных па раёнах і прадпрыемствах, а таксама праверку выкананьня камандыраваньня працаўнікоў, пералічаных устаноў, на месцы даручыць Арг. Інструкт. Сэктару, дабіўшыся, каб усе вызначаныя таварышы выехалі на месцы не пазьней 3/IX-г. г.

12. На кожным наступным пасяджэньні БРК заслухоўваць даклады 2-3 рабачкомаў саўгасаў, сельрабачкомаў ці лясьніцтваў аб разгортваньні паходу.

13. Рэдакцыі прапанаваць забясьпечыць у ва ўсіх наступных нумарах падрабязнае асьвятленьне ходу работы па ажыцьцяўленьні пастановы БРК.

Шырока асьвятліць ход, недахопы і дасягненьні паходу ў насьценым друку я[?]эяк нашага саюзу.

14. Паставіць пытаньне перад саюзамі Саўгандальслужачымі, Працасьветы Мэдсанпрацы і ЦБ Пралетстуду аб мабілізацыі для паходу сяброў саюзу пералічаных саюзаў і студэнцтва ўсіх навучальных устаноў БССР. аб чым даць аб'яднаны дырэктыўны ліст па лініі гэтых саюзаў.

15. Арг. Інструктарсктму Сэктару і Культштабу ў дэкадны тэрмін распрацаваць мерапрыемствы па прэміраваньні лепшых брыгад і асобных брыгадзіраў (бібліатэкамі, радыё-прыёмнікамі, спортінвэнтаром, паездкамі на экскурсіі, выстаўку і г. д.).

*Усім арганізацыям саюзаў СГЛР, Саўгандельслужачых, Працасьветы, Мэдсанпрацы і студэнтцкім арганізацыям.*

## ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!

Адказнейшыя палітыка-гаспадарчыя задачы на вёссцы: калектывізацыя, сканчэньне ўборачнай кампаніі, хлебанарыхтоўкі, асеньняя сяўба і інш. патрабуюць найбольшай згуртаванасьці і пагалоўнай мабілізацыі прафсаюзнае масы на вёсцы,

над кіраўніцтвам камуністычнай партыіі на поўнае і пасьпяховае выкананьне ўдарнымі бальшавіцкімі тэмпамі заданьняў партыі і ўраду.

Ад своечасовага і поўнага выкананьня задач, стаячых перад дзяржавай на вёсцы ў сучасны момант, залежыць арганізацыя новага прыліву бедняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы і арганізацыя новых калгасаў.

Саюз СГЛР мабілізаваў свае шэрагі для паходу на ўдарнае правядзеньне уборачнай кампаніі, хлебанарыхтовак, асеньняй сяўбы сіласавньня фінансавых сродкаў. Пры ўсіх нізовых ячэйках саюзу СГЛР —саўгасах, сельрабачкомах, лесавучастках і г. д. ствараюцца ўдарныя брыгады на гэтым важнейшым вучастку работы.

Сябры іншых саюзаў на вёсцы павінны актыўна патрымаць гэту ініцыятыву саюзу СГЛР выкананьне адказных палітычна-гаспадарчых задач камуністычнай партыіі, і поўнасьцю ўключыцца ў масавы рух сельска-гаспадарчых і лясных рабочых і батрацтва.

Кожны асьветнік мэдпрацаўніка, студэнт павінен прыняць непасрэдны актыўны, ўдзел у паходзе саюзу сельгаслесрабочых, кожны з іх павінен уключыцца ва ўдарныя брыгады пры мясцовых ячэйках саюзу СГЛР.

На парозе трэцяга году пяцігодкі напруджым усю волю, усю энэргію на выкананьне задач, пастаўленых камуністычнай партыяй перад сельскай гаспадаркай.

У паход за поўнае выкананьне пляну хлебанарыхтовак, уборачнай і сяўбовай кампаніі,, за арганізацыю новага прыліву бедняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы!

Ні воднага асьветніка мэдпрацаўніка служачага па-за ўдарнай саюзу СГЛР.

Плячо, ў плячо нага ў нагу, з рабочым саўгасу, калгасьнікам, батраком на выкананьне і перавыкананьне вялікіх задач восені ў саўгасах, калгасах, вёскі.

БРК саюзу сельгаслесраб **Башмачнікаў**
ЦП саюзу працасьветы **Зычкоў**
ЦП с а ю з у Саўгандльслужачых **Кацнельсон**
ЦП саюзу Мэдсанпрацы **Фонгауз**
ЦП Пролетстуду ЦСПСБ **Нахмановіч**

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Беларускага Рэспубліканскага Камітэту Саюзу Сельгаслесрабочых па дакладу Белкаапсаюзу.

Заслухаўшы даклад Белкапсаюзу аб масавым абсьледваньні спажывецкіх таварыстваў у галіне абслугоўваньня рабочых саўгасаў, Прэзыдыум БРК саюзу адзначае, што забясьпячэньне рабочых саўгасаў дэфэцытнымі таварамі і прадуктамі да гэтага часу пастаўлена дрэнна:

а) Рабочыя саўгасаў поўнасьцю вызначаных норм па забесьпячэньні,—не атрымоўваюць;

б) Каапэрацыйныя лаўкі ў значнай большасьці знаходзяцца на далёкай адлегласьці ад саўгасаў ( 10—12 кілёмэтраў).

в) Сталовыя не ў ваўсіх саўгасах арганізаваны, а ў маючыхся сталоўках вельмі высокія цэны на абеды ( 60 65 к. ) і якасьць абеду кепская.

г) Спажыўтаварыствамі і рабачкомамі не праведзена работа па поўным каапэраваньні рабочых (каапэравана 80%, паявыя ўзносы складаюць толькі 75—85% агульнай сумы паявых узносаў)

д) Культбытавое абслугоўваньне рабочых з боку спажывецкай каапэрацыі ў большасьці саўгасаў не арганізавана.

Выходзячы з гэтага Прэзыдыум БРК СГЛР лічыць неабходным:

1) Для нармальнага забясьпячэньня рабочых саўгасаў прадуктамі і прамтаварамі выдзеліць па сыстэме спажывецкай каапэрацыі спэцыяльныя браніраваныя фонды для саўгасаў, улічыўшы ў агульным ліку сталых рабочых, таксама і рабочых занятых на будаўніцтве ў саўгасах.

2) Прапанаваць Белкаапсаюзу без адкладна адчыніць у тых саўгасах, дзе налічваецца ня менш 50 чалавек сталых рабочых, каапэрацыйныя лаўкі, прыстасаваўшы работу апошніх з такім разьлікам, каб рабочыя змаглі-б атрымоўваць прадукты і тавары ў час перапынку і канца работ, а ў саўгасах, налічва-

**Задачы брыгады:**

1. Папулярызаваць урадавае заданьне па сіласаваньні на 1930 г.

| | | |
|---|---|---|
| Засіласаваць | па саўгасах | —125.000 тон |
| „ | па калгасах | —450.000 „ |
| „ | па індывідуальным сэктару | —400.000 „ |
| „ | па вуч. фэрмах | — 25.000 „ |
| Усяго | | 1.000.000 тон |

2. Праверыць як выканана заданьне па сіласаваньні ў сваім саўгасе, калгасе вёсцы ці фэрме.

3. Паставіць пытаньне на агульным сходзе рабочых калгасьнікаў і сялян-адзінаасобнікаў аб выкананьні ўрадавага заданьня для данай мясцовасьці пад кутам погляду выяўленьня і зьнішчэньня недахопаў, нядбайнасьці і непаваротлівасьці ў справе сіласаваньня і абгаварыць пытаньне аб магчымасьці перавышэньня плянавага заданьня па даным саўгасу, калгасу, вёскі (сустрэчны плян).

4. Дабіцца ў самым ударным парадку тэрміновай выкапкі сіласных ям, траншэй і зборкі ведаў (там, дзе яны прадугледжаны плянам), прыцягнуўшы да гэтай справы мясцовыя камсамольскія арганізацыі, вучняў шляхам арганізацыі суботнікаў.

5. Праверыць падрыхтаванасьць да сіласаваньня тых установак, (ям, траншэй) якія былі раней выкапаны і ў выпадку, калі абсталяваньне іх яшчэ ня скончана (абліцаваньне) прыступіць да скончаньня тэрміновага сканчэньня ўстановак да практычнага засіласаваньня.

6. Праверыць забесьпячэньне ям, траншэй, вежаў, сілосным матар'ялам (бульбянік, сланечнік, травы), арганізаваць сваячасовы скос і збор гэтага матар'ялу і забясьпечыць неабходныя меры да недапушчэньня яго псаваньня.

7. Правесьці шэраг сходаў рабочых батракоў, калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў-адзінаасобнікаў, паставіўшы на іх даклад спэцыялістага альбо загадчыка саўгасу аб значэньні сілосу, як кармовай базы для жывёлагадоўлі.

8. Дабіцца тэрміновага пачатку працы па практычным засіласаваньні вежаў, ям, траншэй і прасачыць, каб у гэтай працы прымаў удзел спэцыялісты.

9. Правесьці неабходную вярбовачную работу сярод вакольнага насельніцтва для работ па сіласаваньні ў тых саўгасах, дзе для гэтай працы не хапае сваіх рабочых рук.

10. Разьлічыць работу брыгады такім чынам, каб асноўная і пераважная частка працы па выкананьні пляну засіласаваньня была скончана ў верасьні месяцы і канчаткова праведзяна ў самым пачатку кастрычніка.

## IV. Брыгада па мабілізацыі фінансавых сродкаў.

Склад брыгады: Рабочых сельскае ці лясное гаспадаркі, альбо батракоў—3 прадстаўнік камсамольскай арганізацыі' прадстаўнік ад камісіі садзейнічаньня' дзяржкрэдыту с/с., настаўнік.

**Задачы брыгады:**

1. Правесьці шырокую самаправерку ходу работы па распаўсюджываньні пазыкі індустрыялізацыі „5-годка ў 4 гады“, як сярод рабочых , батракоў, калгасьнікаў, так і бедняцка-серадняцкіх пластоў насельніцтва бліжэйшых вёсак і адначасова аказаць усямерную дапамогу на мясцох у разгортваньні гэтай работы, кіруючыся дырэктывамі БРК саюзу па гэтым пытаньні.

2. Праверыць ступень удзелу і дапамогі з боку рабачкому камісіі садзейнічаньня ў практычнай яе рабоце па рэалізацыі пазыкі "5 годка ў 4 гады", мабілізацыі сродкаў у ашчадкасы і інш. мерапрыёмствы.

3. Праверыць ход становішча работы па афармленьні падпіскі на пазыку індустрыялізацыі і парадак праўдзеньня адлічэньняў з зарплаты рабочых і перавод сродкаў дзяржаве, прымаючы на месцы адначасова меры да зьнішчэньня недахопаў і прабелаў у гэтай рабоце

4. Дабіцца праз рабочыя камітэты шырокага і абавязковага разгортваньня сацспаборніцтва паміж рабачкомамі на лепшае праўдзеньне падпіскі, а таксама арганізаваць сацспаборніцтва паміж калгасамі, вёскамі на лепшае праўдзеньне падпіскі на пазыку індустрыялізацыі. Асноўнай задачай брыгады будзе зьяўляцца дабіцца 100% ахопу падпіскай

рабочых, правёўшы падпіску са значным перавышэньнем контрольнага заданьня паўмесячнага заработку.

5. Шырока разгарнуць работу па мабілізацыі сродкаў бедняцка-серадняцкага насельніцтва вёскі, шляхам найбольшага распаўсюджваньня пазыкі індустрыялізацыі сярод бедняцка-серадняцкага насельніцтва вёскі, ставячы задачу кожнаму рабачкому распаўсюджаваць пазыкі сярод сял-нства ня менш як на 2.000 рубл.

6. Дабіцца найбольшага ўцягненьня бедняцка-серадняцкага насельніцтва вёскі ўкладчыкамі ў касы ашчаднасьці, аказаць садзейнічаньне с/савету ў арганізацыі работы па датэрміновай здачы с/г. падатку сялянамі. Аказаць садзейнічаньне с/с с/г. крэдытным т-ствам у своячасовым пагашэньні ўзятых сялянамі пазык.

7. Разгарнуць работу па паўненьні паявых узносаў у каапэрацыю як рабочымі, так і бедняцка-серадняцкім насельніцтвам вёскі, адначасова арганізаваць і наладзіць работу па збору уцільсыравіны.

8. Уся работа па разгортваньні паходу ўзгадняецца абавязкова з мясцовымі парт. арганізацыямі і праводзіцца пад іх непасрэдным кіраўніцтвам.

9. Брыгады кожныя 10 дзён падагульваюць сваю канкрэтную работу ў рабачкоме, які перасылае зьвесткі аб праробленым у райком;

Райкомы прадстаўляюць кароткія, але канкрэтныя сводкі аб выніках работы брыгад па раёну ў БРК кожнае 5, 15, 25 чысло месяца па наступных пытаньнях:

**Форма дзесяцідзённых сводак работы брыгады.**

*I. Брыгада па хлебанарыхтоўках:*

а) Колькі праведзена сходаў па калгасах - вёсках, якія пытаньні абгавораны і вынікі гэтай работы.

б) Колькі арганізавана чырвоных абозаў па хлебанарыхтоўках, колькасьць двароў, якія ўвайшлі ў чырвоны абоз, колькасьць цэнтнэраў абозам здана хлеба дзяржаве і процант плянавага выкананьня па хлебанарыхтоўках.

в) Колькасьць сабрана тары (мяшкоў).

г) Колькасьць арганізаваных рамонтных брыгад па рамонту тары і іх работа.

д) Колькасьць арганізаваных дружын па ахове складаў і колькасьць рабочых уцягнутых у дружыны.

е) Удзел членаў саюзу ў хлебанарыхтоўках, зьвязаных з сельскай гаспадаркай.

*2. Брыгада па ўборачнай і асеньняй сяўбовай кампаніі:*

а) Ход уборкі, малацьбы ўраджаю і правядзеньне асеньняга севу паказвае характар ходу работы ў лічбах і процант выкананьня вытворчых плянаў.

б) Падрыхтаванасьць калгасаў, саўгасаў да асеньняга севу (інвэнтар с/г. машын, ачыстка насеньня і інш.).

в) Колькасьць арганізаваных рамонтных брыгад па рамонту с/г. інвэнтару машын калгасам і індывідуальна-бедняцка-серадняцкім гаспадаркам.

г) Процант выкананьня пляну па ўборцы ураджаю.

д) Забясьпечанасьць саўгасаў, калгасаў цягавай конскай сілай і рабочай сілай — людзкой.

е) Колькасьць праведзеных суботнікаў і колькасьць удзельнічаючых у суботніку сяброў саюзу па ўборцы ураджаю і асеньняй сяўбы.

ж) Процант выкананьня вытворчага пляну асеньняй сяўбы.

з) Колькасьць уноў арганізаваных калгасаў і колькасьць уця-нутых бедняцка-серадняцкіх га-падарак у існуючыя калгасы і колькасьць уцягнутых у калгасы батракоў і ачыстка і пратручваньне насеньня ў цэнтнерах.

і) Вапнаваньне і ўгнаеньне ў гэктарах.

к) Зяблевая ўспашка і лушчэньне ў гэктарах.

*3. Брыгада па сіласаваньні:*

а) Процант выкананьня плянавага заданьня па сіласаваньні па калгасах, саўгасах і індывідуальным сэктары сельскае гаспадаркі.

б) Колькі і дзе праведзена сходаў па гэтым пытаньні.

ўключыць цытаньне: "аб ударных бягучых задачах саюзу СГЛР" (уборачная кампанія, хлебанарыхтоўкі, асеньняя сяўбовая кампанія, сіласаваньне і мабілізацыя фінансавых сродкаў.)

2) Зараз-жа пасьля канфэрэнцыі усе дэлегаты па прыездзе ў свае ячэйкі ставяць гэтае пытаньне на шырокіх агульных сходах, абавязкова запрасіўшы на іх усіх сябраў іншых саюзаў данай мясцовасьці (Працасьветы, Мэдсанпрацы Саўгандальслужачых Чыгуначнікаў, Харчавікоў і г. д.)

3. На гэтым-жа сходзе пры кожным рабачкоме саўгасу, сельрабачкоме, рабачкоме лесавучастку і г. д., шляхам добраахвотнага запісу, вызначаюцца ударныя брыгады:

1) Па ўдзелу і дапамозе ў выкананьні хлебанарыхтовак.

2) Па ўборачнай і асеньняй сяўбовай кампаніях.

3) Па сіласаваньні.

4) Па мабілілізацыі фінансавых сродкаў.

У кожную брыгаду уваходзяць па тры сябры саюзу СГЛР і 2-3 сябры іншых саюзаў. Агульнае кіраўніцтва работай брыгад ажыцьцяўляецца па лініі рабачкому, альбо сельрабачкому.

4. У выпадку калі ў дадзеным раёне райканфэрэнцыя ўжо праведзена, работа па арганізацыі паходу ускладаецца на райкомы СГЛР. У 3-х дзённы тэрмін райкомы павінны склікаць нараду прафактыву раёну, падрабязна абгаварыць паказанае ў 1-м п. пытаньне, разаслаць удзельнікам нарады па ячэйках для арганізацыі брыгад.

5. Працу брыгад неабходна праводзіць мэтадам сацыялістычнага спаборніцтва як паміж брыгадамі пры даным рабачкоме, так і праз выклік на сацспаборніцтва брыгад суседняга саўгасу ці сельрабачкому.

6. У ва ўсёй сваёй працы брыгадам неабходна цьвёрда памятаць, што яны вызначаны ня толькі для абсьледвацельскай работы, а галоўным чынам, пераважна, для практычнай ударнай і прыкладнай работы па сваёй галіне, з шырокім уцягненьнем у яе, сумесна з камсамольскімі арганізацыямі, самых шырокіх мас рабочых сельскае і лясное гаспадаркі, калгасьнікаў, беднякоў і серараднякоў-адзінаасобнікаў, вучняў, спэцыялістых і сяброў іншых саюзаў на вёсцы (Саўгандльслужачых, Працасьеты і г. д.)

7. Кенкрэтнымі задачамі для брыгад вызначаюцца:

### 1. Брыгада па хлебанарыхтоўках.

Склад брыгады: рабочых альбо батракоў ці лясных рабочых—3, прадстаўнік камсамольскай арганізацыі, прадстаўнік саюзу Саўгандльслужачых, прадстаўнік ад камісіі садзейнічаньня хлебанарыхтоўкам пры с/с, альбо РВК і прадстаўнік ад мясцовай каапэрацыі.

> УВАГА: У тых пунктах, якія распаложаны недалёка ад чыгуначнай станцыі, альбо пристані, у брыгаду неабходна ўвесьці сябра саюзу Чыгуначнікаў, альбо воднікаў

### Задачы брыгады:

1. Папулярызаваць праз агульныя сходы рабочых-калгасьнікаў і сялян адзінаасобнікаў плян хлебанарыхтовак як гадавы, так і месячны, абавязкова дабіўшыся дасягненьня пляну хлебанарыхтовак да кожнага саўгасу, калгасу, вёскі, кулацкага двара.

2. Шляхам „налету" праверыць падрыхтаванасьць да хлебанарыхтовак органаў мясцовай каапэрацыі (спажывецкай і с/г спадарчай). Вынікі паставіць на абгаварэньне камісіі садзейнічаньня хлебанарыхтовак пры сельсаветах, а альбо РВК.

3) Праверыць наліччa, прыгоднасьць і прыгатаванасьць складскіх памяшканьняў, тары і абсталяваньня для сушкі збожжа. Аб усіх выяўленых недахопах у гэтай працы паставіць пытаньне ў с/с ці РВК, дабіўшыся тэрміновага іх зьнішчэньня.

4. Абследваць становішча супроцьпажарных сродкаў у складах і становішча іх аховы і дабіцца абавяковага забясьпячэньня ўсіх складаў неабходным супроцьпажарнымі мерапрыемствамі і стварэньня добраахвотных дружын па ахове склада.

5. У пунктах, дзе блізка маецца чыгуначная станцыя, альбо пристань азнаёміцца з падрыхтаванасьцю іх да пагрузкі і адпраўкі збожжа. Вынікі праверкі паставіць на абгаварэньне сходу грузчы

каў і чыгуначнікаў альбо воднікаў, дабіўшыся зьніжэньне заўважаных недахопаў.

6. Праверыць, як праводзіцца абслугоўваньне хлебаздатчыкаў (хата-чытальня, нардом, дом селяніна, чайная, ларкі і г. д.). Дабіцца вызначэньня культбрыгад ад настаўніцтва, камсамольскай ячэйкі саўгасу, школы ў нардамы і хаты-чытальні для культурнага абслугоўваньня хлебаздатчыкаў (гутаркі, чытка газэт і г. д.). У выпадку патрэбы мабілізаваць сяброў саюзу Саўгандальслужачых для тэхнічнай канцэлярскай работы па прыёмцы збожжа. Вынікі па абслугоўваньні хлебаздатчыкаў абгаварыць на Комсодзе с/с, альбо РВК.

7. На сходах селян-адзінаасобнікоў і калгасьнікаў, пры абгаварэньні пытаньня аб выкананьні пляну хлебанарыхтовак і аб давядзеньні пляну да вёскі і кулацкага двара, прапрацаваць пытаньне аб магчымасьці здаць большую колькасьць збожжа, чым вызначана плянам (сустрэчны плян).

8. Шырока папулярызаваць умовы прэміраваньня хлебаздатчыкаў за датэрміновую здачу збожжа і за высокасортнасьць здаваемага хлеба (зьнішчэньне вільготнасьці і г. д.)

9. Арганізаваць у калгасах і бліжэйшых вёсках чырвоныя абозы збожжа.

### III. Брыгада па ўборцы і асеньняму севу.

Склад брыгады: Рабочых сельскае ці лясное гаспадаркі, альбо батракоў—3, кіраўнік саўгасу, прадстаўнік камсамольскай арганізацыі.

### Задачы брыгады:

1. Давесьці да кожнага рабочага плянавыя заданьні ўраду на асеньнюю пасеўную і на 30 год у саўгасах: пашырэньне пасеўнай плошчы—10,2 тыс. га, падвышэньне ўраджайнасьці—6,8% (у параўнаньні з мінулым годам), 100% ачыстка і пратручваньне насеньня, радкавы засеў на 10 тыс. га, зяблевае ворава на 10 тыс. га, вапнаваньне на 8 тыс. га і г. д. Па калгасах: Засеў азімых на палепшачым папары 100.000 га, засеў гатунковым насеньнем—96.000 га, ачыстка насеньня на 100%, правесьці радкавы пасеў 70.000 га, выканаць зяблевае ворава і пажніўнае лушчэньне на 45.000 га, завапнаваць—57.000 га і г. д. Адначасова дабіцца поўнага плянавага выкананьня па ўборачнай кампаніі.

2. Безадкладна арганізаваць рабочых саўгасу, калгасьнікаў па групах, прыстасаваўшы працу груп такім парадкам, каб найбольш слабыя месцы ўборкі выканаць сваячасова.

3. У дапамогу рабочым групам мабілізаваць ўсю магчымую ў саўгасах і калгасах працоўную сілу, правядзеньнем суботнікаў па ўборцы.

4. Высьвятліць ці маецца плян уборачнай і асеньняй кампаніі і ці даведзяны да рабочага, калгасьніка, бедняка-серадняка-адзінаасобніка.

5. Забясьпечыць сваячасовую арганізацыю абмалоту, ачысткі, пратручваньня і абмену насеньня на гатунковае, выканаўшы плянавыя заданьні, шляхам пераводу зернаачышчальных машын на 3-х зьменную працу абмалотных машын на 2-х зьменную працу і максымальнай нагрузкі ўборачных і пасеўных с/х. машын.

6. Як выконваецца зяблевае ворава, лушчэньне.

7. Забясьпечанасьць складачнымі памяшканьнямі.

8. Выканаць забясьпячэньне асеньняй кампаніі с/с, машынамі, арганізаваўшы праз майстэрні належны рамонт, скарыстаўшы ўсе мажлівыя рэсурсы матар'ялаў у саўгасах.

9. Пасьля сканчэньня ўборкі ў саўгасах, пераключыцца на дапамогу калгасам і бедняцка-серадняцкім гаспадаркам: машынамі, цягавай і працоўнай сілай, рамонтам с/г. інвэнтару і г. д.

### III. Брыгады па сіласаваньні.

Склад брыгады: Рабочых саўгасаў, батракоў, альбо лясных работнікаў—2-3 спэцыялісты, прадстаўнік камсамольскай арганізацыі, прадстаўнік ад саюзу Будаўнікоў і настаўнік. У работу брыгад неабходна абавязкова ўцягнуць рабочых саўгасаў і калгасьнікаў, скончыўшых каротка-тэрміновыя курсы па сіласаваньні.

ючых менш 50 чалавек,—наладзіць развозную сыстэму тавараў,

3) сыстэме спажывецкай каапэрацыі прыняць неабходныя захады да таго, каб да I/X-30 г. былі адчынены сталовыя ў ваўсіх саўгасах, пры чым дабіцца кошту дзённага харчаваньня ў сталовых ня больш 50-55 капеек.

4) Дагаварыцца з НКГандлем БССР аб тым, каб устаноўленыя мясныя нормы НКГандлем СССР выдаваліся-б рабочым саўгасаў поўнасьцю, а ў выпадку немагчымасьці прасіць дазволу НКГандлю забясьпечваць рабочых мясам па ўстаноўленых нормах, за кошт выбракоўкі жывёлы ў саўгасах.

5) Улічваючы, што справа палепшаньня грамадзкага харчаваньня ў значнай меры залежыць ад мабілізацыі мясцовых рэсурсаў, лічыць неабходным арганізацыю пры сталовых у саўгасах (апрача саўгасаў Сьвінаводу) адкормачных сьвінапунктаў, выходзячы з наяўнай патрэбнасьці сталовай.

6) Прызнаць, што выдача аднэй пары абутку на сям'ю рабочага ў год зусім недастатковая, а таму паставіць пытаньне перад НКГандлем аб павялічэньні нормы выдачы абутку да 3-х пар на сям'ю рабочага, а таксама значна павялічыць нормы выдачы талёнаў на рамонт абутку рабочых саўгасаў. Нормы на абутак для рабочых давесьці да кожнага спажыўтаварыства і саўгасу.

7) Белкаапсаюзу прыняць рашучыя меры па забясьпечэньні рабочых саўгасаў спэцвопраткай.

8) Прызнаць, што лепшы кантроль за каапэрацыяй па забясьпечаньні рабочых саўгасаў,—гэта вылучэньне саміх рабочых у апарат каапэрацыі, а таму паставіць сваёй задачай у гэтым годзе вылучыць на пасады як работнікаў прылаўку, таксама і ў праўленьні спажывецкай каапэрацыі ня менш 300 чалавек рабочых саўгасаў і батракоў.

9) Прапанаваць рабачкомам саўгасаў аказаць практычную дапамогу каапэрацыйным арганізацыям у справе правядзеньня поўнага каапэраваньня рабочых і служачых саўгасаў, а таксама і па збору паявых укладаньняў.

10) Белкаапсаюзу прыняць крокі да значнага палепшаньня культурна-бытавога абслугоўваньня рабочых саўгасаў; пашырыць арганізацыю дзіцячых ясьляў і перавод іх на сталыя, максімальна разгарнуць кіно і радыё - абслугоўваньне на падставе заключанага па гэтым пытаньні спэцыяльнага дагавору.

11) Прапанаваць Белкаапсаюзу прыняць да безадкладнага выкананьня ўсе прапановы рабочых па абсьледваньні.

12) Прапанаваць Белкаапсаюзу ў агульным вучоце—выдзеліць вучот забесьпячэньня рабочых саўгасаў.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму БРК Саюзу сельгасрабочых „аб разьліковай кампаніі".

**Ад 29/VIII-1930 году.**

Надаючы вялікае палітычнае значэньне надыходзячай разьліковай кампаніі, Прэзыдыум БРК высоўвае перад саюзнымі органамі наступныя асноўныя задачы:

а) дабіцца поўнага выкананьня працоўнага законадаўства аб прымяненьні наймовай рабочай сілы ў сялянскіх гаспадарках і абавязкаў, узятых наймальнікамі па працдагаворах, вядучы рашучую барацьбу з скрыўленьнямі клясавай лініі ў абарончай рабоце, як та: распаўсюджваньне часовых правіл на кулацкія гаспадаркі, з аднаго боку і прад'яўленьне непасільных запатрабаваньняў для бядняцка-серадняцкіх гаспадарак—з другога.

б) Мабілізаваць шырокія колы батрацтва і пастушаства на непасрэдную і арганізаваную абарону сваіх эканамічных і правовых інтарэсаў перад наймальнікамі, на барацьбу са спробамі кулацтва абайсьці працоўнае законадаўства.

в) Арганізаваць актыўны ўдзел батрацтва і пастушаства ў праводзімых зараз партыяй і ўладай мерапрыемствах на вёсцы,—калектывізацыя бядняцка—серадняцкіх гаспадарак, уборачная, пасеўная і падрыхтоўчая кампаніі. Разгар-

нуць масавае ўцягненьне батрацтва і пастушаства ў калгасы.

Выходзячы з чаго Прэзыдыум БРК усім райкомам, райпрафкомам, сельрабачкомам і рабачкомам прапануе:

1. Зараз-жа прыступіць да поўнай праверкі выкананьня працдагавораў і падрыхтоўкі да разьліковай кампаніі.

2. Пры райкомах і райпрафкомах склікаць шырокія нарады саюзнага і батрацкага актыву, з прыцягненьнем на іх актыву другіх саюзаў, камсамольскіх і савецкіх арганізацый, судовых органаў і органаў аховы працы. Распрацаваць календарныя пляны правядзеньня батрацкіх і пастушаскіх сходаў. Арганізаваць групы добраахвотнікаў, разьбіць раёны дзейнасьці на вучасткі, прымацаваць да кожнага вучастку на ўвесь час разьліковай кампаніі брыгадзіра, на якога ўскласьці адказнасьць за правадзімую там работу.

3. Ва ўсіх населішчах, сельсаветах і раёнах, згодна календарнага пляну, склікаць шырокія сходы батрацтва і пастушаства, на якіх растлумачваць задачы саюзу і самаго батрацтва ў разьлікавую кампанію. На гэтых жа сходах паставіць даклады судовых органаў аб парадку разгляду батрацкіх канфліктаў у судох.

4. Сумесна з інспэктарамі працы зараз жа скасаваць усе выкрытыя кабальныя працдагаворы; разьлік з гэтымі батракамі пастухамі. а таксама з тымі, якія зусім працавалі бяз працдагавароў, павінен утварыцца ў бядняцка-серадняцкіх гаспадарках на падставе „часовых правіл" і ў кулацкіх гаспадарках на падставе Кодэксу Законаў аб Працы.

5). Злосныя парушыцелі, а таксама скрытыя наймальнікі, павінны быць аараз жа перададзены ў судовыя органы, над кулацкімі гаспадаркамі неабходна арганізоўваць паказальныя судовыя працэсы. Пры разглядзе ўсіх батрацкіх спраў у судох неабходна ставіць абаронцаў, прадстаўнікоў саюзу, вылучаючы апошніх з ліку лепшых клясававытрыманых і падрыхтаваных батракоў і пастухоў.

6. У час гэтай работы асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на ўмовы працы батрачак, таму побач з правядзеньнем агульных сходаў батрацтва і пастушаства, неабходна правесьці асобную растлумачальную работу сярод жанчын, для чаго склікаць спэцыяльныя сходы жанчын-батрачак.

7. Райкомам, райпрафкомам і сельрабачкомам неабходна ўжо зараз улічыць усё батрацтва і пастушаства, якое закончвае сэзон работы і намеціць пасылку іх на розныя дзяржаўныя работы (саўгасы, леспрамгасы і інш. работы). Ні воднага батрака на зімовы час не павінна застацца без працы.

8. Усім саюзным камітэтам неабходна асьвятляць ход разьлікавай кампаніі ў друку, а таксама інфармаваць аб ходзе БРК саюзу.

Райкомам і райпрафкомам саюзу па сканчэньні разьліковай кампаніі на сваіх пасяджэньнях абгаварваць вынікі гэтай работы і поўны матар'ял па гэтым пытаньні даць у БРК.

9. Даручыць Калгасна—Батрацкаму Сэктару, сумесна з Культштабам БРК, распрацаваць і даць на месцы паказньні па культмасавым абслугоўваньні батрацтва і пастушаства ў разьліковую кампанію і на зімовы час.

*Усім рабачкомам лясьніцтваў, лесанарыхтоўчых вучасткаў, сплаўшчыкаў і раённым інструктарам саюзу сельгаслесрабочых.*

## Аб перабудове саюзнай сеткі ў леспрамгасах і лесавучастках.

**Паважаныя таварышы!**

Рэарганізацыя лясной гаспадаркі, якая праводзіцца згодна пастановы СНК ад 23/VII-г.г. патрабуе каранной перабудовы саюзнай сеткі ў мэтах прыстасаваньня да новых форм і задач, якія зараз стаяць перад лясной гаспадаркай.

Устаноўлены і зацьверджаны ўжо граніцы леспрамгасаў; зараз правод-

# ПАСТАНОВА

## Прэзыдыуму БРК саюзу СГЛР аб 3-х месячніку ліквідацыі няпісьменнасьці.

Адзначыць, што прадстаунік НКАсьветы да разгляду пытаньня аб 3-х месячніку ліквідацыі няпісьменнасьці не зьяўляецца ужо другі раз.

Дзякуючы таму, што пытаньне ліквідацыі няпісяменнасьці адкладу ня церпіць і патрабуе разгортваньня работы зараз, Прэзыдыум БРК саюзу пастанаўляе:

1. Заключаны дагавор з НКАсьветы на ліквідацыю няпісьменнасьці на 1929—30 год лічыць сапраўдным і дзейнасьць яго працягнуць на 1930/31 год.

2. Прапанаваць усім рабачкомам саўгасаў, леспрамгасаў, сельрабачкомам, прафкомам прыняць усе захады да поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод батрацтва і сельгаслесрабочых, на падставе дагавору, заключанага з НКАсьветы ў 1929 г. (гл. бюлетэнь БСК саюзу № 13 (31) ад 1/X-29 г.).

# ПАСТАНОВА

## Прэзыдыуму Бел. Рэсп. К-ту Саюзу СГЛР аб ходзе работы па падсочцы заходняга раёну трэсту Лесахім.

Заслухаўшы даклад прадстаўніка Зах. раёну Дзяржтрэсту „Лесахім“ т. ПАСЕЧНІКА, Прэзыдыум БРК адзначае:

Што выкананьне прамфінпляну падсочнага промыслу Лесахіму ў бягучым годзе характэрызуецца наступнымі лічбамі:

а) Падсочкай ахоплена 7.037 га супроць намечаных па пляну 6.667 га, што склалае 5,5% перавыкананьня.

б) Устаноўлена кар 1.671,000 замест 1.415.000, меньш на 9%.

в) Здабыта жывіцы спачатку сэзону на 15/VI 82 тоны, замест намечаных 73 тон, ці 112%. З 16/VI па 30/VI здабыта 90 тон, замет 94, ці 96,6%. З 1/VI па 15/VI здабыта 77 тон замест 147, ці 52% з 15/VII па 31/VII здабыта 80 тон замест 147, ці 54%. Гэта сьведчыць аб тым, што ў выкананьні прамфінпляну на промыслах Лесахіму маецца вялікі прарыў, які ня можа быць зьліквідаваны за застаўшыйся час працы да канца сэзону.

Нездавальняюча пастаўлена забясьпячэньне рабочых прадуктамі і прамтаварамі з боку мясцовых каапэрацыйных арганізацый, што мае ўплыў на масавы ўход з падсочкі. З боку НКП і Лесахіму ня было дастаткова зьвернута ўвагі на вярбоўку рабсілы ў межах БССР.

Рабачкомы лясьніцтваў не разгарнулі належнай культмасавай працы сярод рабочых па падсочцы і не вядуць барацьбы са шкодніцтвам—папсуцьцё казыркоў, разьвіцьцё прыёмнікаў і інш. Прамфіналян не даведзен да рабочых, сацспаборніцтва і ўдарніцтва сярод рабочых не разгорнута. З боку адміністрацыі Лесахіму ня прыняты меры да своечасовага забясьпячэньня тарай для перавозкі жывіцы.

Выходзячы з гэтага Прэзыдыум БРК саюзу пастанаўляе:

1. Прыняць рашучыя меры па ліквідацыі прарываў па выкананьні прамфінпляну на падсочных промыслах Лесахіму.

2. Прапанаваць НКПрацы, рабачкомам лясьніцтваў узмацніць працу па вярбоўцы рабсілы ў межах БССР да поўнага забясьпячэньня падсочных промыслаў Лесахіму рабочай сілай.

3. Белкаапсаюзу прыняць меры да своечасовага і поўнага забясьпячэньня рабочых на падсочцы прадуктамі і прамтаварамі.

4. Рабачкомам лясьніцтв шырока разгарнуць палітыка-выхаваўчую працу па абслугоўваньні рабочых на падсочцы і разам з гаспадарнікамі правесьці растлумачальную працу сярод рабочых аб важнасьці работы па падсочцы, давесь-

ці прамфінплян да кожнага рабочага, разгарнуць сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Лепшых ударнікаў і ўдзельнікаў сацспаборніцтва за лепшыя дасягненьні вылучыць для прэміраваньня.

5. Рабачкомам і адміністрацыі вучасткаў праводзіць шырокую растлумачальную работу сярод насельніцтва па барацьбе са шкодніцтвам на работах па падсочцы.

## Усім рабачкомам саўгасаў, райпрафкомам, сельбатрачкомам, мясцкомам і горрабачкомам.

У бюлетэні № 7 ад 1-га чэрвеня г/г адначасова з дачай дырэктыў аб перавыбарах нізавых прафворганаў было дадзена паказаньне аб прысылцы картак складу ўноў абраных рабачкомаў.

Ня гледзячы на тое, што прайшло шмат часу са дню атрыманьня Вамі нашай дырэктывы, Б. Р. К. на сёньняшні дзень мае гэтыя матар'ялы толькі па 31,3% усіх прафячэяк, г. зн., што з колькасьці 469 ніз. профячэяк (ня лічучы раб. лясной гаспадаркі, паколькі яна рэарганізуецца) мы адтрымалі толькі 147 картак.

Гэткія адносіны рабачкомаў да сваіх абавязкаў безумоўна зьяўляюцца недапушчальнымі і зрываюць усю працу Б. Р. К., паколькі мы ня можам скарыстоўваць сваечасова тую частку матар'ялаў, якая ў нас маецца. Б. Р. К. прапануе пад асабістую адказнасьць старшынь рабачкомаў у 5-ці дзённы тэрмін даслаць карткі складу рабачкомаў у БРК саюзу.

Заг. Арг. Інструкцыйным

Сэктарам **Жывіцкі.**

## Усім рабачкомам, мясцкомам, прафкомам, сельрабачкомам і раёным інструктарам саюзу СГЛР

22/VIII-г.г. сумесна з плянам аб удзеле ў хлебанарыхтоўках БРК саюзу даслаў В/ карткі хуткага вучоту членаў саюзу і форму зьвестак аб дагаворнай кампаніі.

Гэтыя статформы В/ неабходна ў тэрміновым парадку запоўніць з тым, каб ня пазьней 5/IX-г. г. ўсе неабходныя зьвесткі былі-б у БРК саюзу.

Райінстауктарам прасачыць за выкананьнем гэтай работы з боку рабачкомаў і, ў патрэбных выпадках, дапамагчы райпрафкомам і сельрабачкомам у складаньні гэтых статформ,

Загадчык Арг. Сэктару БРК **Жывіцкі.**

## Усім кіраўнікам і рабачкомам саўгасаў Белсельтрэсту, Сьвінаводтрэсту і Насентрэсту.

У зьвязку з запытаньнямі асобных кіраўнікоў і рабачкомаў саўгасаў якая павінна быць цана на хлеб, выдаваемы гаспадаркамі рабочым, служачым і іх семьям, згодна дадатку 5-га да пункту 51-га генэральнага калдагавору, БРК саюзу сумесна з трэстамі растлумачвае што цана на ўсе прадукты, ў тым ліку і на жыта, застаецца мінулага году г. зн. на жыта 6 капеяк за адзін кілеграм і г. д.

Старшыня БРК Саюзу **Манжалей.**
Дырэктар БСТ **Грабенчык**
Упаўнаважаны Канторы
Сьвінавода **Аўчыньнікаў.**
Упаўнаважаны Насентрэсту **Мартэнсон**

Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.

Адказны рэдактар Манжалей.
Намесьнікі яго: Лашкевіч, Юшкевіч.

Галоўлітбел № 2943. Тыраж 1000 экз. Друкарня Менспраўдому.

## Сьпіс лесправмгасу

| №№ п. п. | Акруга | Леспрамгас | Быўш. Л-вы, з якіх арганізаваны леспрамгасы | Цэнтр леспрамгасу |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Магілёўская | Магілёўскі | Шкпоўскае, Лупалаўскае, Магілёўскае. | Магілёў |
| 2 | „ | Быхаўскі | Быхаўскае, Дняпроўскае, Лучыцкае. Журавіцкае. | Быхаў |
| 3 | „ | Прапойскае | Чавускае, Чэрыкаскае, Езерскае, Прапойскае, Ліцьвінавіцк. Чырвонапольскае. | Прапойск |
| 4 | „ | Клімавіцкі | Крычаўскае, Клімавіцкае, Хоцімскае, Касьцюковіцк., Панькаўскае, Мілаславіцкае. | Клімавічы |
| 5 | „ | Друцкі | Бялыніцкае, Цехцінскае, Лубяніцкае, Немкаўскае. | Гарадзішча |
| 6 | Аршанская | Талочынскі | Талочынскае, Азярыцкае, Круглянскае, Коханаўскае. | Талочын |
| 7 | „ | Аршанскі | Шчэрбінскае, Сватошыцкае, Капыскае, Аршанскае, Багушэўскае, Дзевінскае. | Ворша |
| 8 | „ | Горацкі | Горацкае, Дрыбінскае, Курманаўскае. | Горкі |
| 9 | Віцебская | Віцебскі | Віцебскае, Кузьняцоўскае, Высачанскае. Ліезьнянскае, Учанавіцкае. Астроўскае, д. Падвінскае, д. Янавіцкае. | Віцебск |
| 10 | „ | Бешанковіцкі | Бешанковіцкае, Сіроцінскае, Сеньненскае, Чашніцкае. | Бешанковічы |
| 11 | „ | Гарадокскі | Гарадокскае, Руднянскае, Вярэцкае, Галіноўскае, Сьцепанкавіцкае, Астроўскае (3 дачы). | Гарадок |
| 12 | Полацкая | Полацкі | Ульскае, Обальскае, Полацкае. Ветрынскае, Сосьніцкае, Громаўскае, Дзьвінскае, Ушацкае. | Полацк |
| 13 | „ | Лепельскі | Сьвяцкае, Лепельскае, Далецкае, Красналуцкае, Чарэйскае. | Лепель, Мена |
| 14 | „ | Дрэтуньскі | Арлейскае, Дрэтуньскае, Чырвонапольскае, Расонскае. | Дрэтунь |
| 15 | „ | Дрысенскі | Валынецкае, Клясьціцкае, Юхавіцкае Асьвейскае, Дрысенскае. | Валынец |
| 16 | Бабруйская | Верайцоўскі | Цэльскае, Лапіцкае. Градзянскае, Вязкае, Брыцалаўскае. | Асіпавічы |
| 17 | „ | Бабруйскі | Клічаўскае, Сьвіслацкае, Любоніцкае, Панюшковіцкае, д. Кісялевіцк., Градзянскае, д. Бераціцкая, Бабруйскае. | Бабруйск |
| 18 | „ | Глускі | Парыцкае, д. Верыпдарск. д. Дуброўскае, д. Трэмлеўскае, Глускае, Крукаўскае, Брожскае, Панюшковіцкае, д. Глушанск, Любаньскае, д. Ямніцкае, Рудабельскае. Слаукавіцкае. | Глуск |
| 19 | „ | Слуцкі | Слуцкае, Чырв Слабодзкае, Старадарожскае, Фаліцкае, Грэскае, Гольчыцкае. | Слуцак |
| 20 | „ | Пасталаўскі | Дзякавіцкае, 'Дамановіцкае, Старобінскае, Любаньскае, | Пасталы |
| 21 | „ | Жлобінскі | Ціхініцкае, Рагачоўскае, Жлобінскае, Парэчскае, д. Бяльчынск, д. Стушкаўская, д. Мальчанская, д Парэцкая, Слаўньскае, Гарадзецкае. | Рагачоў |
| 22 | Менская акруга | Неманскі леспрамгас | Капыльскае, Таўкачэвіцкае, Уздзянскае, Неманьскае, Койданаўскае, д. Станькаўская, д. Пеланевіцкая, Ленінскае, Шацкае, д. Каралеўская. | Узда |

| № № п. п. | Акруга | Леспрамгас | Быўш. Л-вы. з якіх арганізаваны леспрамгасы | Цэнтр леспрамгасу |
|---|---|---|---|---|
| 23 | Менская акруга | Менскі | Заслаўскае, Менскае, Койданоўскае, Ленінскае, Сьмілавіцкае, Вепрацкая дача Гаінскага Л-ва. | Менск |
| 24 | „ | Чэрвеньскі | Чэрвеньскае, Грабенскае, Іванаўскае, Смалявіцкае, д. Шабрынская, д. Рушкоўская, д. Пікалінская Пухавіцкае, Сьмілавіцкае, д. Градзішч, д. Падбярэская. | Чэрвень |
| 25 | „ | Бярэзінскі | Бярэзінскае, Чарняўскае, Арэшкаўскае, Пагоскаае, Ухвальскае. | Бярэзіна |
| 26 | „ | Барысаўскі | Ст. Барысаўскае, Барысаўскае, Глівеньскае Неманіцкае, Веляціцкае, Крупскае. Смалявіцкае, дачы: Пяцічоўская, Шыпянская, Шпакоўская, Косінская, Антанопальская, Смалявіцкая, Чэрніцкая, Прудбаранскае, Л-во, д. д. Карсаковіцкая і Зембінская, Зембінскага Л-ва. | Барысаў |
| 27 | „ | Плешчаніцкі | Плешчаніцкае, Лагойскае, Гайніцае, (за выключ. Вепрацкай дачы), Зембінскае (за выключ. Карсаковіцкая і Зембінскай дач), Вялейскае, Бягомльскае. | Плешчаніцы |
| 28 | „ | Паляўн. Запав. | Запаведная, Асеціцкая дача, Бягомльская Л-ва. | |
| 29 | Мазырская | Тураўскі | Мілашэвіцкае, Данілевіцкае, Бучанскае, Танескае, Азяранскае, Тураўскае. | Танеж |
| 30 | „ | Убортскі | Белабярэжскае, Дубраўскае, Буйнавіцкае, Мялешкавіцкае, Прыпецкае. | Лельчыцы |
| 31 | „ | Каралінскі | Мазырскае, Каралінскае, Валоўскае, Нараўлянскае, Мохаедаўскае, Вадовіцкае. | Ельск |
| 32 | „ | Жыткавіцкі | Людзяневіцкае, Жыткавіцкае, Ветчынскае, Камаровіцкае, Дарашэвіцкае, Петрыкаўск. | Жыткавічы |
| 33 | „ | Калінкавіцкі | Азарыцкае, Зеляноцкае, Кблінкавіцкае, Капцэвіцкае, Пціцкае, Рудабельскае, д. Ністановіч. | Калінкавічы |
| 34 | Гомельская | Гомельскі | Ленінскае, Добрушскае, Шабрынскае, Макаяўскае, Маркавіцкае, Астроўскае. Веткаўскае. | Гомель |
| 35 | „ | Кашалёўскі | Палескае, Чырв. Бераскае, Чачэрскае, Вікторыйскае, Кашалёўскае. | Б. Кашалёва |
| 36 | „ | Рэчыцкі | Рэчыцкае. Борхаўскае, Горвальскае, Дзяміхоўскае, Васілевіцкае, Аўцюцевіцкае. | Рэчыца |
| 37 | „ | Хойніцкі | Хойніцкае, Вялікаборскае, Акцябрскае, Загальскае, Дзелістоўскае, Жараўскае, Макановіцкае, Дзякевішчанскаь, дача Вадовіцкага Л—ва. | Хойнікі |

зіцца праца па разьмяркаваньні леспрамгасаў на вучасткі (вучлеспрамгасы).

Выбары рабочых камітэтаў у леспрамгасах і вучлеспрамгасах, як баявая палітычная кампанія павінны праводзіцца ў напрамку мабілізацыі шырокіх мас рабочых лясной гаспадаркі, лесанарыхтовак і сплаву на рашучую барацьбу з ухіламі ад генэральнай лініі партыі ў прафрабоце, на барацьбу з рвацкімі настроямі за выкананьне і перавыкананьне прамфінплянаў, зьніжэньне сабекошту і палепшаньне якасьці лясной прадукцыі, падняцьце вытворчасьці, зьнішчэньня прагулаў, разьвіцьцё сацспаборніцтва і ўдарніцтва, шырокае разгортваньне крытыкі і самакрытыкі.

Арганізацыйная праца па выбарах рабачкомаў вучлеспрамгасаў і леспрамгасаў павінна праводзіцца наступным парадкам:

Раённым інспэктарам склікаецца арганізацыйны сход прафактыву леспрамгасу, на якім абіраецца арганізацыйнае бюро з 3-5 чалавек, якое складаецца з прадстаўнікоў буйных саюзных арганізацый. Старшынёй Аргбюро рэкамэндуецца райінструктар, альбо асоба, вызначаная РК КП(б)Б.

Аргбюро павінна распрацаваць падрабязны плян правядзеньня выбараў рабачкомаў вучлеспрамгасаў і скліканьня агульна-леспрамгаскай канфэрэнцыі і для выбараў агульна-леспрамгаскага рабачкому (райкому), які арганізуецца пры наліччы ў леспрамгасе ня менш 300-350 членаў саюзу.

Рабачкомы вучлеспрамгасаў абіраюцца пры наліччы ня менш 25 членаў саюзу. Пры меншай колькасьці абіраецца ўпаўнаважаны. Колькасны склад рабачкому вучлеспрамгасу ўстанаўліваецца ў залежнасьці ад колькасьці сталых і сэзонных рабочых і служачых, абслугоўваемых рабачкомам.

Пры колькасьці членаў саюзу ад 25 да 100 абіраецца 5 членаў і 2 кандыдаты. Пры колькасьці членаў саюзу звыш 100—11 членаў і 3 кандыдаты.

Агульная леспрамгасаўская раённая канфэрэнцыя склікаецца праз тыдзень пасьля правядзеньня выбараў рабачкомаў вучлеспрамгасаў.

Дэлегаты на раённую леспрамгасную канфэрэнцыю абіраюцца на агульных сходах вучлеспрамгасаў па модусу прадстаўніцтва 1 ад 10 членаў саюзу.

Райком леспрамгасу абіраецца ў складзе 7 членаў і 2 кандыдатаў, пры наліччы ў леспрамгасе да 500 членаў саюзу, 9 членаў і 3 кандыдаты, пры наліччы ад 500 да 700 членаў саюзу і 13 членаў і 4 кандыдаты, пры наліччы звыш 750 чл. саюзу.

Парадак дню райканфэрэнцыі леспрамгасу рэкамэндуецца наступны:

1) Чарговыя задачы работы саюзу СГЛР на аснове рашэньняў XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду Усе КП(б). (Дакладчык ад райкому партыі.)

2) Кантрольныя лічбы леспрамгасаў. (Дакладчык дырэкт. леспрамгасаў.

3) Плян работы райкому леспрамгасу.

4) Выбары райкому леспрамгасу і рэўкамісіі.

УВАГА: У тым выпадку, калі на дзень скліку канфэрэнцыі ня будуць выпрацаваны кантрольныя лічбы па леспрамгасах, на канфэрэнцыі неабходна паставіць кантрольныя лічбы леспрому.

У тых леспрамгасах, дзе лесанарыхтоўчыя работы праводзяцца МББ і Зах. чыг., рабочыя і служачыя апошніх павінны таксама ўдзельнічаць у выбарах вучастковых рабачкомаў і райкомаў леспрамгасу. Пасьля выбараў вучастковых рабачкомаў і райкомаў леспрамгасу— рабачкомы лясніцтваў, лесанарыхтоўчых арганізацый Лесбела і МББ і Зах. чыг., а таксама рабачкомаў сплаўшчыкаў— распускаюцца ўсе грашовыя справы праверaюцца рэўкамісіяй і астатак грошай, марак, інвэнтар, бібліятэкі і інш. перадаюцца агульна-леспрамгаскаму камітэту па актах.

Пры арганізацыі райкому леспрамгасу, дзе маецца ня менш 750-500 членаў саюзу, якія плоцяць членскія ўзносы, пры наліччы ня менш 6-8 вучастковых рабачкомаў у леспрамгасе ўводзіцца адзін аслабанёны платны работнік (старшыня райкому). Тэхнічны работнік уводзіцца толькі ў тых райкомах, дзе наліч-

ваецца членаў саюзу, якія плацяць членскія ўзносы, ня менш 1000 чалавек.

Старшыня рабачкому вучлеспрамгасу, як правіла, павінен быць аслабанёным платным работнікам, аднак у тых рабачкомах, якія абслугоўваюць ня менш як 50 членаў саюзу і ня менш 150 чал. абслугоўваемых сэзонных рабочых.

Пры райкомах леспрамгасаў павінны быць арганізаваны раённыя бюро спэцыялістых, пры наліччы ў леспрамгасе ня менш 15 чал. Раённыя бюро спэцыялістых абіраюцца на канфэрэнцыях спэцыялістых леспрамгасаў у складзе 3-5 членаў і 2 х кандыдатаў, якія абіраюць з свайго складу старшыню і сакратара бюро.

Раённыя бюро спэцыялістых зьяўляюцца ўнутры саюзнай арганізацыяй і работу сваю праводзяць згодна палажэньня аб ІТС пад непасрэдным кіраўніцтвам райкому саюзу.

Плян выбараў рабачкомаў і райкомаў леспрамгасаў намячаецца наступны:

З 10-га да 15-га верасьня праводзяцца выбары рабачкомаў вучлеспрамгасаў.

З 20-га да 25-га верасьня праводзяцца выбары райкому леспрамгасаў.

Гэты плян райінструктары павінны ўзгадніць з мясцовымі партарганізацыямі.

Пасьля правядзеньня выбараў прапануецца тэрмінова даслаць у БРК саюзу анкеты і блянкі запоўненыя рабачкомамі і райкомамі на членаў і кандыдатаў уноў абраных рабачкомаў вучлеспрамгасаў і агульна леспрамгаскіх рабачкомаў.

Анкеты і блянкі дасылаюцца разам з гэтым.

Старшыня БРК саюзу СГЛР **Башмачнікаў**

Заг. Арг. сэктару БРК **Жывіцкі**